BIEŁARUSKAJE ABJADNANNIE STUDENTAŬ

# APOŚNIJA PAVIEDAMLENNI BAS

Нр.3

## АДБЫЛОСЯ

16.03.1989г. Пакліканы да жыцця гурток БАС-у пры Беластоцкай палітэхніцы. Старшынёю гуртка выбраны Міраслаў Пякарскі. Ягоны адрас: ДС "Бэта", вул. Звежынецка 10,п.711. Аб узнікненні гуртка паінфармаваны ўлады навучальнай установы.

23.03.1989г. Упершыню ў пасляваеннай Польшчы афіцыйна адзначалася гадавіна Акту 25 Сакавіка. Арганізатарам святкавання было Беларускае Аб'яднанне Студэнтаў. Тэрмін мерапрыемства быў перасунуты на два дні з прычыны каталіцкага Вялікадня. Праводзілася яно ў святліцы студэнцкага інтэрната Беластоцкай медычнай акадэміі, на вуліцы Акадэміцкай 3. Ужо над уваходам у інтэрнат красаваўся лозунг: "25 Сакавік - незалежнасць". Зала, у якой сабралося каля 100 асоб, была ўпрыгожана бел-чырвона-белымі сцягам і лозунгамі: "Жыве Беларусь", "БАС", "71 год БНР", "Без роднай мовы няма перабудовы". Святкаванне пачалося супольным адспяваннем нацыянальнага гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Потым мінутаю цішы ўшанавалася памяць змагароў за незалежнасць Беларусі. Прынагодныя прывітанні зачыталі прадстаўнікі Краёвай каардынацыйнай камісіі Незалежнага згуртавання студэнтаў і дыскусійнага клуба Руху салідарнасці маладых з Беластока. Беластоцкі НЗС прысутным не быў. З дакладамі выступілі гісторыкі: Юры Туронак і Алег Латышонак. Эля Бэзюк выступіла з нізкай патрыятычных песняў, якія падхапіла уся зала. Афіцыйная частка закончылася гімнам СБМ "У гушчарах", які людзі праспявалі, стоячы на зважай. Але вечарына гэтым не закончылася. Удзельнікі доўга яшчэ не разыходзіліся, адны дыскутавалі ў групах, іншыя спявалі ў суправаджэнні гітары Элі Бэзюк.

У гэты вечар мела яшчэ месца Пасяджэнне Галоўнай рады БАС-у, на якім абмяркаваўся план дзейнасці да канікул.

1.04.1989г. Заснаваўся гурток БАС-у ў Гданьску. Старшынёю выбрана Ірэна Гаданчук. Заснавальніцкі сход спаткаўся з вялікім зацікаўленнем і падтрымкай Гданьскага аддзела БГКТ, які падрыхтаваў прысутным невялікі пачастунак, а таксама кароткую мастацкую частку.

31.03.-2.04.1989г. 15-ці асабовая група студэнтаў з БАС-у прабывала ў беларускім горадзе над Нёманам - Гародні. Мэтай выезда было навязаць бліжэйшыя сувязі з гродзенскай "Паходняй", дзейнасць якое вельмі блізкая беларускім студэнтам у Польшчы. Удзельнікі выезда мелі таксама магчымасць пабачыць горад, пабываць на канцэртах беларускай рок-музыкі "Рок крок", ды сустрэцца з людзьмі, якія з'яўляюцца заснавальнікамі бе-

ларускага адраджэнскага руху ў Гародні. Асабліва цікавымі былі сустрэчы з Данутай Бічэль-Загнетавай у музеі Максіма Багдановіча ды Аляксеем Карлюком у доме-музеі Э.Ажэшка, дзе зараз мае сваё памяшканне таксама гродзенскі аддзел Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аднак найбольшае ўражанне на ўдзельніках паездкі зрабіў доктар гістарычных навук Міхась Ткачоў, прэзідэнт "Паходні". Дзякуючы яму мелі яны магчымасць пазнаць праўдзівую гісторыю горада над Нёманам і пабачыць усё, што з'яўляецца нашай беларускай спадчынай. Праваслаўны жаночы манастыр /зараз музей рэлігіі і атэізма/ Ніжні замак, царква Барыса і Глеба /Каложа/з XII ст., гэта толькі нешматлікія месцы, дзе нам давялося пабываць. Выезд у Гародню, за які, карыстаючыся нагодаю, вельмі дзякуем "Паходні", быў першым мерапрыемствам такога тыпу, але, надзеемся, не апошнім. БАС імкнецца навязаць трывалыя сувязі з Беларусамі ў БССР і гэтая мэта здаецца недалёкаю.

## А Д Б У Д З Е Ц Ц А

30.04.-2.05.1989г. Праваслаўны Вялікдзень. Усіх членаў ды прыхільнікаў БАС-у рэдакцыя "Апошніх паведамленняў" заклікае да святкавання ў цвярозасці.

29.04.-3.05.1989г. Выезд 20-ці асабовай групы БАС-у на турыстычнае мерапрыемства, арганізаванае менскаю."Талакою".

5.05.-7.05.1989г. Рэйд у Мастаўляны - месца, дзе нарадзіўся змагар за незалежную Беларусь, Кастусь Каліноўскі.

6.05.1989г. Дзень святога Юрыя Пераможцы. Не забудзь выслаць пажаданні знаёмым Юркам.

13.05.-14.05.1989г.Ольштынская Рада культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці арганізуе навуковую сесію на тэму: цяперашні стан і сіла беларускага нацыянальнага руху.

19.05.-21.05.1989г. Злёт праваслаўнай моладзі на святой гары Грабарцы. Звяртаемся з заклікам да беларускіх студэнтаў адзначыць нашу нацыянальную прысутнасць у гэтым месцы.

1.04.1989г. Міжнародны дзіцячы дзень. Прыпамінаем, што ўсе дзеці - нашыя.

24.06.-25.06.1989г. Купалле на дачы Латышонкаў у Супраслі. Прадбачваецца прыезд Данчыка Андрусышына і танцавальнай групы "Васілёк" з Нью-Йорка ды гасцей з Савецкай Беларусі.

## Н Е З А Б Ы В А Й

- Кожную пятніцу ў памяшканні ГП БГКТ на вуліцы Варшаўскай 11,у Беластоку, праводзяцца заняткі Беларускага Народнага Універсітэта.
- У тым жа самым памяшканні, кожны аўторак адбываюцца рэпетыцыі беларускай танцавальнай групы.

**І ТЫ МОЖАШ СТАЦЬ ЧЛЕНАМ БАС-у,**

хопіць толькі заплаціць складчыну і атрымаць членскі білет.

Інтэрв'ю з удзельнікамі мітынгу з нагоды 25 Сакавіка, які адбыўся ў Менску а 10 гадзіне, каля тэатральна - мастацкага інстытуту.

- "Апошнія паведамленні": Свята незалежнасці Беларусі кожнаму з нас ёсць нагодай да нейкіх рэфлексіяў, уражанняў. Як вы, маладыя людзі, студэнты, ставіцеся да гэтай нагоды, калі ўсе мы ведаем адносіны з боку дзяржаўных улад да ўгодкаў незалежнасці, як і да самой БНР?

- Удзельнікі: Нашыя адносіны да БНР з'ўляюцца супрацьлеглымі да адносін ураду. Для нас БНР даў незалежнасць, а для ўлад гэтая гадавіна і ўспамін аб ёй ёсць проста пагроза яе існавання. Зараз з утварэннем Народнага Фронту пагроза стала больш рэальнай, навуковае развіццё камунізму і Савецкай Беларусі страцілі рацыю існавання. Усё атрымалася проста хлуснёй. На сённяшні дзень улады выкарыстоўваюць усе магчымыя сродкі барацьбы з незалежніцкімі памкненнямі нашага народу.

-"А.П.": Ужо ад некалькі гадоў беларускія студэнты ў Польшчы святкавалі гэтую гадавіну. У гэтым годзе ўпершыню БАС афіцыйна наладзіў святкаванні ў Беластоку. Як выглядала, а цяпер выглядае справа на Бацькаўшчыне?

-Удзельнікі: Так як і раней афіцыйнае святкаванне на Беларусі немагчымае. Ў мінулым гэта было свята душы і святкавалася ў глыбокім падполлі, найчасцей у прыватных кватэрах, у невялікім кругу блізкіх людзей. У гэтым годзе была першая спрба выйсці і паказацца на вуліцы, каб людзі даведаліся праўду аб мінулым.

-"А.П.": Цяпер ужо пяройдзем да самога мітынгу. Хто яго арганізаваў, колькі было прысутных, якая была рэакцыя ўлад на ўсё гэта?

- Удзельнікі: Мітынг арганізавалі студэнты тэатральна - мастацкага інстытуту. Удзельнічала недзе трыста асоб, у большасці студэнты, а таксама менская інтэлігенцыя. Мітынг распачаўся ў 10 гадзін раніцы. Улады загадзя падрыхтаваліся да разгону мітынгу. Усе пераходы былі абстаўлены міліцыяй, шмат іх было ў цывільнай вопратцы. Мітынг распачаў Аляксандар Пушкін, які цераз мегафон паведаміў усіх прысутных аб мэтах мітынгу. Удзельнікі мітынгу разгарнулі лозунгі:"Беларускай мове - дзяржаўнасць", "Суверэнітэт Беларусі", "Досыць "сацыялістычнай" - адродзім Народную Беларусь", "Жыве Незалежная Беларусь". Паўсюды былі відавочныя бела - чырвона - белыя сцягі. Удзельнікі не паспелі сфарміравацца, калі міліцыянты пачалі заклікаць да разыходу мітынгуючых. Людзі не паслухалі і калі прайшлі недзе 30 метраў, міліцыянты пачалі ламаць і рваць сцягі, лозунгі. Найбольш актыўных удзельнікаў білі, выкручвалі рукі, цягнулі ў спецыяльныя машыны. Арыштаваных было недзе чалавек 30. Мітынгуючыя аднак не разыходзіліся, пачалі крычаць "Вандэя", "Вызваліць затрыманых".

Людзі бачылі, як затрыманых білі таксама і ў аўтобусе. Гэтая цяганіна з міліцыяй закончылася недзе каля поўдня.

-"А.П.": Ці можаце сказаць, якія водгукі былі сярод Мінчан пасля яго разгону?

- Удзельнікі: У гэты дзень адбыўся яшчэ адзін мітынг - перадвыбарчы /у Вярхоўны Савет СССР/ - арганізаваны Народным Фронтам. Удзельнічала некалькі тысяч людзей. Сярод выступаючых былі: А.Жураўлёў, З.Пазняк, А.Сыс, В.Івашкевіч, члены аргкамітэта БНФ, а таксама ўдзельнікі разгоненага мітынга. На мітынг адгалоскі былі розныя, моладзь, у большасці падтрымоўвала ўдзельнікаў, а старэйшыя, якія чытаюць "Вячэрні Мінск" і "Политический собеседник" заклікалі міліцыянёраў прымяніць дубінкі. Была прынята рэзалюцыя: афіцыйна прызнаць беларускую нацыянальную сімволіку, забяспечыць беларускай мове належнае ёй месца ў рэспубліцы, вызваліць затрыманых на раннім мітынгу. Не гледзячы на дрэннае надвор'е мітынг працягваўся ад двух гадзін пасля абеда да палову шостай.

-"А.П.": Як прадбачваеце святкаваць Акт Незалежнасці ў будучыні? Ці ідэя незалежнасці можа ахапіць шырэйшыя кругі грамадства?

- Удзельнікі: Свядомасць народа ўсё расце. Ужо далей не можна маўчаць. Людзі актыўна падтрымоўваюць Народны Фронт, ужо зарэгістравана дзесяць тысяч групаў падтрымкі. А і затым будзе ўзрастаць ідэя незалежнасці.

-"А.П": Слухаючы вашых расказаў і чытаючы прэсу можна канстатаваць, што прыняцце ўдзелу ў мітынгу даволі небяспечнае. Можна быць пабітым, штрафаваным, а нават выкінутым з інстытута. Якія прычыны прывялі вас на мітынг? Ці не баіцеся?

- Удзельнікі: Мы ўжо прымалі ўдзел ў некалькіх недазволеных мітынгах. Існуючае палітычнае становішча выклікае нашае супрацьстаўленне, таму мы лічым немагчымым пераходзіць побач падзей. А страху можна проста пазбыцца.

- "А.П.": Дзякую за размову.

Гутарыў: Яўген Вапа

Выдаецца на правах рукапісу. Тыраж: 99 экзэмпляраў.